Цана асобнага нумару 20 грошаў.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# НАША ПРАЎДА

Выходзіць два разы у тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодна, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№ 22 — Вільня, Субота 18-га чэрвеня 1927 г. — Год I

# БЕЛАРУСЫ МЕСТА ВІЛЬНІ! ГАЛАСУИЦЕ ЗА СЬПІСАК № 15!

## Трагедыя моладзі.

Кожын год цэлая грамадка беларускіх хлапцоў і дзяўчат канчае беларускія сярэднія школы і ўваходзіць як-быццам у самастойнае жыцьцё. Кожын год некалькі дзесяткоў беларускіх матурыстаў, пакінуўшы сьцены гімназіяў, стукаецца ў дзьверы вышэйшае школы, каб далей здабываць навуку, каб—скончшыўшы яе—заняць месца сярод беларускага грамадзянства і здабытую веду і сілы аддаць свайму многапакутнаму, вякамі забітаму працоўнаму народу. І кожын год на тым шляху, аб якім лятуцелі ў працягу гадоў навукі ў гімназіі, гэтыя нарастаючыя інтэлігентныя сілы нашыя сустракаюцца з неперaходнай перашкодай:

— Тут, у родным краю, дзьверы вышэйшае школы для іх зачынены...

Так першы крок у самастойным жыцьці нясе ім мо' і першае паважнае расчараваньне. Пяць гадоў беларускае грамадзянства дабіваецца ўсімі спосабамі расчыненьня для нашае моладзі храму вышэйшае навукі ў межах Польскае дзяржавы; пяць гадоў лепшыя прадстаўнікі польскага народу голасна пратэстуюць проці цяжкое крыўды, якая робіцца нашай моладзі. Але ўсё дарэмна: тыя, хто мае ўладу вырашаць гэту балючую справу, адказываюць мёртвай мовай міністэрскіх цыркуляраў і, пазываючыся на адсутнасьць у беларускіх гімназіях „правоў публічнасьці", самі-ж іх гэных правоў і надалей пазбаўляюць!

Дзе-ж прычына гэтага? Чаму найгорш пастаўленая польская гімназія мае прывілеі, якіх ня мае зусім добра пастаўленая беларуская? І чаму могуць мець гэныя „правы публічнасьці" такія-ж гімназіі жыдоўскія, расейскія, ці літоўскія—апрача беларускіх?

Адказ знайсьці ня трудна. Тут выяўляецца лішні раз тая агульная польская палітыка, якая ня губляе йшчэ надзеі на магчымасьць *спыніць* натуральны і ўжо абсалютна неперамножны, нястрыманы *рост беларускае нацыянальнае сьвядомасьці.* Па польскіх міністэрствах усё яшчэ трымаецца вера ў тое, што даволі прапускаць усю беларускую моладзь праз польскія гімназіі, і яна цалком прыме польскую культуру і польскую нацыянальнасьць. І ў гэтым—увесь адказ на нашае мо' найбольш балючае пытаньне,—на пытаньне, якое такім цяжарам ляжыць на маладых беларускіх сэрцах.

Але дарэмныя спадзяваньні! Дарэмныя, бо, паміма магутнага росту нацыянальнага пачуцьця, сярод нашай моладзі ўсё больш і больш паглыбляецца і другое пачуцьцё, якое ня дасьць адарваць яе ад „роднага карэньня". Гэта—пачуцьцё абавязку бараніць ня толькі права нашага народу на вольнае разьвіцьцё роднае культуры і ўсіх нацыянальных асаблівасьцяў, але і права вялізарнае большасьці гэтага народу — яго працоўных масаў вёскі і места—*на людзкае жыцьцё і волю.* Наша моладзь — гэта-ж усё дзеці сялян і работнікаў, якія пазналі ўвесь цяжар сацыяльнае несправядлівасьці, на якой пабудаваны сучасны грамадзкі лад. Ідэалам нашае моладзі зьяўляецца не адно толькі разьвіваньне і ўзбагачаньне роднае мовы і культуры, але і праца над падняцьцем жыцьцёвага роўня нашых працоўных масаў, над вызваленьнем гэтых масаў з путаў *сацыяльнае няволі.* І вось гэтае імкненьне настолькі ўзрасло і акрэпла, што адарваць нашу моладзь ад народных нізоў, з якіх яна вышла, шляхам прышчапленьня ей чужое мовы й вонкавых адзнакаў чужое нацыянальнасьці — *немагчыма.* А раз так, дык і нацыянальнае сьвядомасьці ў нашых падрастаючых пакаленьнях ніякія зьдзекі, ніякія крыўды забіць ня здолеюць. І калі моладзь наша, пакідаючы сьцены роднае гімназіі, перажывае першае сваё цяжкое жыцьцёвае расчараваньне, дарэмна стукаючыся ў дзьверы польскага ўнівэрсытэту,—дык толькі найслабейшыя, найменш жыцьцяздольныя адзінкі апускаюць рукі і здаюцца на ласку „паноў палажэньня". Вялізарная большасьць, усе тыя, хто здольны да жыцьця і змаганьня за сьвятыя ідэалы Чалавека,—усе яны толькі гартуюцца і крапчэюць духам, набіраючы нязломнага пераканаваньня, што толькі змаганьне вядзе да перамогі.

Сяньня, калі моладзь наша, як і што-году, пакідае школьныя лавы, мы радзім „паном палажэньня" паважна задумацца над тым, што робіцца ў выніку іх недальназоркае палітыкі. А моладзь нашу заклікаем—ня гледзячы на ўсе перашкоды — ісьці да канца па абраным шляху і стануць у рады актыўных працаўнікоў на карысьць свайго народу.

---

З розных месц нашага Краю, дзе адбыліся выбары ў гмінныя рады, даходзяць дужа памысныя весткі. Блізу ўсюды **перамагае сьвядомае беларускае сялянства**, выкідаючы за борт свайго грамадзкага жыцьця варожыя нашаму працоўнаму народу элемэнты.

Каб мець поўны абраз вынікаў выбараў, мы зварачаемся гэтым да ўсіх нашых чытачоў і прыяцеляў з просьбай **безадкладна паведамляць аб выбарнай акцыі ў кожнай гміне.** Шліце ў Рэдакцыю „Нашае праўды" падробныя інфармацыі:
1) колькі было кандыдацкіх сьпіскаў і якія;
2) колькі выбрана радных у вашай гміне;
3) колькі ў гэтым ліку сьвядомых беларусаў;
4) колькі другіх нацыянальнасьцяў і станаў;
5) як прайшлі выбары (ці былі надужыцьці).

---

*Хто чытае нашу газэту і не прысылае падпіскі, той ня спрые разьвіцьцю роднай беларускай прэсы.*

*БРАТЫ! Прысылайце падпісную плату, а хто задоўжыўся, выраўняйце свой доўг.*

---

# 15

**Кандыдацкі сьпісак Аб'яднанага Камітэту м. Вільні на выбары у мястовы самаўрад:**

1. Заштовт Аляксандар—інжэнер
2. Дзідзюль Аляксандар—шавец
3. Лапушыньскі Канст.—урадовец
4. **Крук Кузьма—каапэратар**
5. Заштовт-Сукеньніцка Галіна — доктар права
6. Хмель Янкель Нафталь—вучыц.
7. Буйко Уладыслаў—разьбяр
8. Дэляцкі Ошэр—прыкашчык
9. Поборць Вінцэнты—шавец
10. Родкевіч Валент.—шчэтавод
11. Гурвіч Хаім—разьнік
12. **Кепель Мітрафан—тэхнік**
13. Краеўскі Андрэй—загатоўшчык
14. Сенкевіч Язэп—сталяр
15. Айзэнбэрг Хаім—вучыцель
16. Шэміс Антон—загатоўшчык
17. Залеўскі Франц.—шавец
18. Дулька Фэлікс—загатоўшчык
19. **Сіняўскі Мікалай—вучыцель**
20. Сьвіла Эдварды—работнік
21. Булько-Бжэзіньскі Юл.—сталяр
22. Левінсон Хая-Ліба—гаспадыня ў бальніцы
23. **Янулевіч Людвік—гутнік**
24. Герасімчук Арцём—работнік
25. Будрык Вацлаў—сталяр
26. Крым Станіслаў—шавец
27. **Рэшатаў Уладыслаў—наборшчык**
28. Брэйво Вінцэнт—сьлёсар
29. **Тарасаў Аляксандр—цесьля**
30. Семашка Уладыслаў—гравёр.

Кандыдаты Беларускага Выбарнага Камітэту адзначаны грубымі літэрамі (№№ 4, 12, 19, 23, 27, 29).

## Выбарнае машэнства „Сял. Нівы".

Ня першае яно, і пэўне-ж, не апошняе! А машэнства гэнае — вось у чым.

Як ведама, скандальна скампрамітараныя паны Ярэміч, Більдзюкевіч і кумпанія зрабілі выбарны хаўрус з расейцамі, стварыўшы так-званы „Беларуска-расейскі" выбарны камітэт. На сьпіску гэтага камітэту, які ня мае надзеі правясьці навет аднаго кандыдата, Ярэміч, як беларус, стаіць на трэцім месцы і гэтак **ні ў якім выпадку прайсьці ў мястовую раду ня можа.** Затое-ж на першых двух мясцох стаяць расейцы: сэнатар Багдановіч (які прайшоў у сэнат па беларускаму сьпіску, як кандыдат праваслаўнага духавенства), ды грам. Емельянов. Вось-жа, каб на гэных расейскіх кандыдатаў прыцягнуць беларускія галасы, да сьпіску № 1 прычэплены дзеля прынады назоў „Беларуска-расейскі", хоць беларусы стаяць там на **безнадзейных мясцох!**

Але гэтага спэцыялістам ад палітычнага шахраваньня—мала. Яны разумеюць, што **ніводзін беларускі работнік, ніводзін сьвядомы інтэлігент не падасьць свайго голасу за „адзінку", бо прадстаўнікі працоўных беларусаў пастаўлены на сьпіску Работніцкага Аб'яднанага Камітэту № 15.** Гэта — грамадзяне Крук, Кэпель, Сіняўскі і рад інш. Дык вось, каб ашукаць выбаршчыкаў — беларусаў, „Сял. Ніва" ў № 47 пусьціла **заведама брахлівую вестку,** быццам на сьпіску № 15 няма беларускіх кандыдатаў, ды што „Наша Праўда" „ўступіла сваё месца палякам" і „адказалася ад свайго прадстаўніка — беларуса ў мястовай радзе, перадаючы абарону беларусаў-работнікаў палякам з П.П.С.".

І ўся гэтая ілжа пішацца **ўжо пасьля** падачы і зацьверджаньня **ўладамі** сьпіску № 15, дзе грам. **Крук, ведамы беларускі каапэратыўны дзеяч, кандыдат Бел. Выб. Камітэту, мае зусім забясьпечанае месца.**

Вось якім ашуканскім спосабам „Сялянская Ніва" стараецца абаламуціць беларускіх выбаршчыкаў і аддаць галасы нашых работнікаў — за расейцаў!

Дык, выбаршчыкі-беларусы, **ганіце вон ад сябе ашуканцаў, якія суляць вам расейскі сьпісак № 1** пад відам „беларуска-расейскага". Ня верце тым, хто да сваей бруднай мэты **ідзе шляхам ілжы і ашуканства!**

Ганьба махлярам!

**Падавайце галасы дружна за сьпісак № 15**

---

## Завастрэньне польска-радавых адносінаў.

### Другая нота Радаў да Польшчы.

11 чэрвеня радавы ўрад аддаў польскаму паслу ў Маскве другую ноту—у тэйжа справе забойства Войкова. Нота, пры ўсей яе лагоднай форме, мае характар „ультыматуму"...

Спачатку радавы ўрад выражае сваё здаваленьне з прычыны сцьверджанага польскай нотай абурэньня і асуджэньня польскім урадам і ўсім польскім грамадзянствам акту забойства. Падчырківаючы сваё здаваленьне такжа і прапазіцыяй Польшчы даць адшкадаваньне сям'і забітага, радавы ўрад заяўляе, што забясьпечаньне сям'і Войкова ён, аднак, лічыць абавязкам Радавай Дзяржавы.

Радавы ўрад ня можа аднак-жа згадзіцца з тлумачэньнем забойства, як „індывідуальнага акту" шаленца — Кавэрды, лічыць забойства „адкай з праяваў сыстэматычнай і пляновай барацьбы цёмных сілаў сусьветнай рэакцыі і ворагаў міру з СССР". Пляновая барацьба англійскага ўраду проці СССР, а асабліва яе апошні акт — разрыў стасункаў з Радамі, „распуталі гэтыя цёмныя сілы, а перадусім — контр-рэвалюцыйныя і тэрорыстычныя арганізацыі расейскіх эмігрантаў", якія, карыстаючыся новаствораным міжнародавым палажэньнем, „пастанавілі дапамагчы ваяўнічаму імпэрыялізму (дадай: англійскаму!) да справакаваньня ваеннага канфлікту між СССР і іншымі дзяржавамі". У гэтай нова-ўзьняўшайся крывавай бойні гэтыя сілы маюць надзею адбудаваць былы царскі расейскі імпэрыялізм, а ў ім — свае прывілеі, утрачаныя ў рэзультаце рэвалюцыі.

Дзеля таго злачынства 7-га чэрвеня мае значна шырэйшае значэньне, чым разумее яго польская нота, — бо яно **„пагражае перадусім тым нармальным мірным адносінам між абедзьвюма дзяржавамі"**, дзеля ўнармаваньня якіх, як сьцьвярджае сам польскі ўрад, так многа і пасьпешна напрацаваў забіты пасол. А гэтыя мірныя адносіны радавы ўрад лічыць „вельмі важным чыньнікам агульнага міру, асабліва ў напружаным міжнародавым палажэньні, каторае стварылася супраць волі СССР, які ўсьцяж дае бясспрэчныя довады свайго міралюбія".

Тым больш шкадуе радавы ўрад, што польскі ўрад не зварачаў дагэтуль належнай увагі на тую перашкоду для разьвіцьця нармальных адносінаў між абыдвума краямі, якую ствараюць талераваныя ўладай рознага роду тэрорыстычныя арганізацыі, што дзеюць проці СССР на тэрыторыі Польшчы. „Радавы ўрад ня можа згадзіцца з Вашай заявай, пане міністар, што польскі ўрад заўсёды недапускаў на польскай тэрыторыі ніякае пляновае акцыі, скіраванае проці СССР". Нота кажа, што радавы ўрад мае „абшырны матэрыял, які ілюструе тую талеранцыю, а ў паасобных выпадках — навет і яўную помач, якія аказывае польская ўлада арганізацыям і асобам, што вядуць пляновую ці неплановую актыўную барацьбу проці СССР — шляхам арганізаваньня тэрору ці бандыцкіх нападаў на тэрыторыі СССР"... Нота абяцуе прадставіць польскаму ўраду ў бліжэйшым часе пэўныя матэрыялы ў гэтай справе.

Далей нота кажа, што, хаця польскі ўрад у сваей ноце падчыркнуў няпольскую нацыянальнасьць забойцы Войкова, аднакжа, як высьветлілася, Кавэрда—польскі грамадзянін, сын ведамага контр-рэвалюцыйнага дзеяча ў СССР. — „Прызнаньне польскага абывацельства такім элемэнтам, бяз сумліву аблягчаючы ім дзеяльнасьць проці СССР, ацягчае гэтым дадаткова адказнасьць поль-

